 нумары: Зварот Прэзідыум ГП БГКТ  З Кузьмоў пад неба  Газнікі

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№34 (391) | ГОД VIII | 25 ЖНІЎНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

## Зварот Прэзідыум ГП БГКТ

### у справе збору экспанатаў для музея імя Кастуся Каліноўскага

Прэзідыум ГП БГКТ звяртаецца да ўсіх членаў і сімпатыкаў нашай арганізацыі аказаць максімальную дапамогу ў зборы экспанатаў для музея ім Кастуся Каліноўскага ў Гайнаўцы.

У музеі гэтым будуць памяшчацца экспанаты, якія характарызуюць матэрыяльную культуру паўднёва - ўсходняга раёна Беласточчыны, а менавіта:

**1. народнае адзенне для ўсіх узростаў — вышываныя блузкі, кашулі, фартушкі, карункі, галаўныя ўборы і г.д.**

**2. абутак.**

**3. хатнія аздабленні — ручнікі, макаткі, абрусы, вырабы з саломы, дрэва і т.п.**

**4. ткацтва — ходнікі, плахты, матэрыял на адзенне.**

**5. прадметы хатняга ўжытку — пасуда з гліны і дрэва мясцовага вырабу, хатняе абсталяванне.**

**6. прадметы і прылады да апрацоўкі зямлі, вырошчвання пасобных культур, як: драўляныя плугі, вазы, сошкі, бораны, цапы, вілы і г.д.**

Прэзідыум лічыць, што большасць экспанатаў ужо не мае вялікага практычнага застасавання ў штодзённым жыцці і таму просіць пераказаць іх музею бясплатна. На кожным прадмеце будзе ўмешчана імя і прозвішча асобы, якая яго выканала і падаравала.

Экспанаты просім перасылаць або пісьмова паведамляць на адрасы:

*a) Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11*

*b) Zarząd Oddziału BTSK, Hajnówka, ul. Wyzwolenia (Dom Nauczyciela)*

*c) Zarząd Oddziału BTSK, Bielsk, ul. Mickiewicza 52.*

*d) Zarząd Oddziału BTSK, Milejczyce, ul. Borowi a 6*

*e) Zarząd Oddziału BTSK, Michałowo, PDK*

*f) Zarząd Oddziału BTSK, Sokółka, ul. Białostocka (PMRN)*

*g) Zarząd Oddziału BTSK, Dąbrowa, KP PZPR tow. Kalinowski*

*h) Zarząd Oddziału BTSK, Warszawa, ul. Senatorska 8.*

## КЛОПАТЫ І РАДАСЦІ

Жнівеньскі дзень. Спёка. Колы рэдакцыйнай «Варшавы» ліпнуць да растопленай шашы - смалоўкі. Па баках, над палоскамі пераспеўшага аўса, згорбленыя постаці жанчын. На Сакольшчыне гарбаценькі сярпок усё яшчэ модны. У полі рэдка сустрэнеш мужчыну з касой. Яшчэ радчэй жняярку. Людзі неахвотна адрываюцца ад працы, каб пагутарыць з журналістам. Небывалая спёка прыспорыла гару работы. Ярына без пары даспела. Амаль адначасова з азімінай. Пячэ як у пекле. Не перарабіць. Стомленыя постаці ізноў пахіляюцца над загонамі. Ад зямлі бухае жарам. Вочы залівае едкім, пякучым потам. Лета. Сялянскае.

Затрымоўваемся ў першай прышасейнай вёсцы за Саколкай. Над дзвярыма сялянскай хаткі шыльда: Прэзідыум ГРН у Старой Каменцы. Уваходзім. Над кучамі разваленых папераў пахіленыя людзі. Пацеюць. Паміж папераю талерачкі з нейкай едкай вадкасцю і мухі. Дохлыя. Сотні «трупаў» у талерачках з задзертымі ўверх ножкамі.

Старшыня прэзідыума — Уладзіслаў Аніська з прыкметнай палёгкай адрываецца ад паперы.

— Ад гэтай чумы не абаронішся летам, — кажа ён вінавата адсоўваючы на край стала талерачку з «трупамі».

— Што чуваць? — кідаем па прывычцы ўніверсальнае пытанне.

— Спёка, а дажджу ні капелькі.

— Ну, гэта мы і самі адчуваем.

— Жніво зацягваецца, а тут нарыхтоўкі на носе. Дзяржава чакаць не будзе.

— Яно вядома, серпікам хутка не справішся.

— Прабавалі і жняяркай, але не выйшла. Шэсць дзён стаяла на адным палетку. Запусцяць, а яна жуе, жуе і каліўка жыта перакусіць не можа. Бухвалоўскі ПОМ так яе падрыхтаваў да працы. Спатрэбілася інтэрвенцыя Саколкі, каб забралі ад нас калеку і далі іншую. Што ж мелі рабіць сяляне? Пайшлі з серпікамі.

— Другія вёскі не спадзяюцца на ПОМ. Маюць свае ўласныя камплекты сельгасмашын. На тое ж і створаны дзяржавай фонд развіцця сельскай гаспадаркі.

— У нас таксама ёсць сельскагаспадарчы гурток. Існуе ўжо некалькі год. Толькі раскрунуцца ўсё нейк не можам. Апрача двух малацільных агрэгатаў нічога больш не маем. Але ў апошні час і ў нас рушыла. Сабралі ад сялян некалькі тысяч зло-

(Працяг на стар. 4)

Падпалкоўнік Міхась Палей са сваёй сталёвай птушкай.

В. БАРШЧЭЎСКІ

## З КУЗЬМОЎ ПАД НЕБА

15 год таму назад на пастушка, які разам з другімі дзяцьмі пасвіў кароў на наднараўскіх сенажацях, ніхто не звяртаў асаблівай увагі. От, пастушок, як і ўсе дзеці. Нічым ён спецыяльна не выдзяляўся ад другіх. Хіба толькі сваёй смуглявасцю. Мішка быў як цыганок. Толькі вочы блішчэлі з-пад доўгага казырка бацькавай кепкі.

Самалёты ў нас рэдка лёталі. Зараз пасля вайны, дык часцей за ўсё пралятаў «кукурузнікі».

— Эх, узабрацца бы на яго, — гаварыў у такі час Мішка, ведучы за самалётам вачыма, — ды паглядзець уніз, Адтуль нашыя каровы мабыць малюсенькія, як мурашкі.

— Калі б былі такія як мурашкі, дык як ты іх пабачыў бы ў траве з такой вышыні? — пярэчыў нехта.

Тут успыхвалі спрэчкі, што з самалёта можна пабачыць, а чаго не. Але ніхто з нас не ведаў, як у сапраўднасці выглядае зямля з самалёта і таму спрэчкі канчаліся ўнічыю.

Пасля, закончыўшы пачатковую школу ў Рыбаках, пастушкі пакінулі кароў і распаўзліся па свеце. Парваліся і нашыя сяброўскія сувязі. Часам толькі, прыехаўшы дамоў, чулася, што Ваня вучыцца ў Лодзі, Шурык у Любліне, а Коля яшчэ ў іншым горадзе. Для нас, пастушкоў, народная ўлада адкрыла шырокія дзверы ў свет.

Мішка стаў вучыцца ў Міхалове ў прафесіянальнай школе (зараз яна называецца засаднічай школай механізацыі сельскай гаспадаркі). Калі Мішка канчаў 2-гі клас. у школу прыехаў прадстаўнік вайсковага паветранага флота, каб заахвоціць школьнікаў да афіцэрскай школы лётчыкаў. Мішкі заахвочваць не трэба было.

У 1950 годзе Беластоцкі ВКР паклікаў Мішку на лекарскую камісію. На здароўе ён не наракаў ніколі, але тут, як на злосць, вырасла яму балячка на шчацэ. Ад яе абалваніла ўвесь твар.

(Працяг на стар. 5)



Пастушкі з вёскі Кошкі не трацяць дарма часу. На пашы карысна і прыемна кніжку пачытаць.

Фота: ПАЎЛЮЧУК

 

# Апошнія бастыёны каланіялізму ў Афрыцы

Новым крокам, набліжаючым Афрыку да палітычнага адзінства, з'яўляецца канферэнцыя міністраў краін Чорнага кантынента, якая адбылася ў мінулым тыдні ў Дакары. Крыху раней прадстаўнікі гэтых краін правялі сустрэчу ў Адыс-Абебе. У Дакары вырашана м. ін. утварыць панафрыканскі сакратарыят з сядзібай у сталіцы Эфіопіі і праводзіць перыядычныя пасяджэнні кіраўнікоў урадаў.

Якую, аднак, асноўную ролю споўніла канферэнцыя ў Дакары? Справа тут менавіта, у жаданні яе ўдзельнікаў правесці апошняе і рашучае наступленне на астаткі каланіялізму ў Паўднёвай Афрыцы, галоўным чынам, на партугальскія ўладанні ў Анголе і Мазамбіку. Як вынікае з прынятай у Дакары рэзалюцыі, афрыканскія краіны намерваюцца выкарыстаць дзеля гэтага набліжаючуюся XVIII сесію ААН. Значна лепшымі з'яўляюцца сёння ўмовы для правядзення такога наступлення, чымсьці гэта магло быць, скажам, 5—6 год таму, калі вызваленчы рух у Афрыцы знаходзіўся яшчэ ў пачатковай стадыі і калі празаходнія краіны мелі ў ААН вялікую перавагу галасоў.

Як выглядае сёння палітычная карта Афрыкі? Пачынаючы ад заканчэння другой сусветнай вайны, у выніку нацыянальна - вызваленчых рэвалюцый блізка 200 мільёнаў афрыканцаў стала свабоднымі. Такім чынам 28 краін мае зараз палітычную незалежнасць. Аднак гэта яшчэ не цэлая Афрыка і не без значэння ў ходзе вызваленчай барацьбы гэтага кантынента з'яўляецца дата 11 ліпеня 1960 года. У гэты дзень прэзідэнт шостай правінцыі рэспублікі Конга Чомбе аб'явіў «незалежнасць Катангі», дзейнічаючы па ўказцы і за грошы імперыялістычнага канцэрна Уніён Мінер. Пачынаючы практычна ад гэтага моманту, затармазіўся працэс вызвалення Чорнай Афрыкі. Быў гэта, менавіта, момант, які крануў самае чуллівае месца белых каланізатараў — іх капітал.

Да сённяшняга дня амаль уся Паўднёвая Афрыка (за выключэннем Нясы) ўяўляе сабою непадзельную крэпасць белых, якою кіруюць урады Партугаліі, Федэрацыі Радэзіі і Паўднёва - Афрыканскай рэспублікі. Гэтыя ўрады выражаюць палітычныя інтарэсы белага насельніцтва, складаючага толькі 3.700.000 асоб і ўладаючымі звыш 27 мільёнамі неграў.

Класічнымі калоніямі з'яўляюцца тут Ангола і Мазамбік. Партугалія лічыць іх сваімі заморскімі правінцыямі. Паўднёва-Афрыканская рэспубліка з'яўляецца незалежнай і свабоднай, зразумела, толькі для белых. Федэрацыя Паўночнай і Паўднёвай Радэзіі залежная ад Лондана. Бечуана, Сваві і Басута, якія маюць меншае палітычнае значэнне — гэта пратэктарат Вялікабрытаніі. Урэшце тэрыторыя Паўднёва-заходняй Афрыкі, знаходзячыся фармальна пад апекай Аб'яднаных Нацый, была фактычна захоплена Паўднёва-афрыканскай рэспублікай.

У чым заключаецца вялікае значэнне Паўднёвай Афрыкі для белых каланізатараў? Дык вось, Паўднёвая Афрыка належыць да найбагацейшых тэрыторый свету. На поўнач ад ракі Замбезі (Радэзія) знаходзяцца капальні медзі. У паўднёвай частцы Катангійскага ўзвышша знаходзяцца найбагацейшыя запасы кобальту. На ўсход ад Іоганесбурга — найбольшыя ў свеце слаі золата. Уся цяжкая прамысловасць канцэнтруецца ў Паўднёва-афрыканскай рэспубліцы ў акрузе Ранд. Гэтыя прамысловыя цэнтры патрабуюць штогод тысячы чорных рабочых, якія прыбываюць з суседніх краін, галоўным чынам, з бедных мінераламі Анголы і Мазамбіку. Паміж Радэзіяй і Партугаліяй існуе нават дагавор, паводле якога Ангола павінна пастаўляць штогод 160 тыс. неграў, неабходных у капальнях медзі. Зразумела, што зарплату гэтых рабочых забірае амаль поўнасцю партугальскі ўрад.

Сапраўднымі гаспадарамі Паўднёвай Афрыкі з'яўляецца 9 вялікіх прамысловых канцэрнаў, звязаных з амерыканскім, брытанскім, бельгійскім і часткова французскім капіталам.

Пазіцыя свабоднай, Чорнай Афрыкі поўная рашучасці. Гэты кантынент рыхтуецца да канчатковай расправы з апошнім бастыёнам белых каланізатараў.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# НАМ БЫ ПРАЦАВАЦЬ СПАКОЙНА

У панядзелак, 12 жніўня, Маскоўскае радыё падало сумную вестку: двух японцаў сваё жыццё пакончыла самагубствам.

Чаму? Што было прычынай трагедыі гэтых людзей?

Аказваецца, што прычынай была атамная бомба, якую 18 год таму скінулі амерыканцы на Хірасіму. Маладыя тады яшчэ японцы знайшліся ў раёне скажаным радыёактыўным праменяваннем, якое заўсёды неадлучна спадарожнічае ядзерным узрывам. Праз 18 год страшэнна цярпелі яны ад так званай пасляпраменнай хваробы. Не было для іх ніякага ратунку. Іхняе жыццё — павольнае, паступовае ўміранне. Урэшце не вытрымалі.

Гэтая сумная вестка з'яўляецца хіба найбольш вымоўным, найбольш пераканаўчым каментарыем да падпісанага ў Маскве дагавору аб забароне ядзерных выпрабаванняў у космасе, у паветры і пад вадой. Можа таму Маскоўскі дагавор карыстаецца такой вялікай папулярнасцю ў свеце. Звыш ста дзяржаў пастанавіла падпісацца пад гэтым дагаворам. Практычна абняў ён ужо цэлы свет. Такой папулярнасцю ніколі не карысталася ніякая другая міжнародная пастанова.

Амаль усе дзяржавы і іх правадыры паспелі ўжо выявіць свае адносіны да Маскоўскага дагавору. Цікава аднак ведаць, што аб ім думаюць простыя людзі, напрыклад, сяляне з Беласточчыны. Трэба тут заўважыць, што падпісанне дагавору адбылося ў той час, калі ў нашых сялян найбольш працы, калі селяніну не ў галаве ні газета, ні радыё. Таго перш за ўсё я баяўся, калі з пытаннем:

— Што думаеце аб падпісаным у Маскве дагаворы аб забароне ядзерных выпрабаванняў у космасе, у паветры і пад вадой? — звярнуўся да некаторых людзей, якіх давялося мне сустрэць у час адной з апошніх журналісцкіх вандровак па Гайнаўскім павеце.

Вось старэйшы селянін з вёскі Новае Ляўкова — Парфеній Красноўскі.

— Я, браток, — гаворыць ён, — пражыў ужо 70 год. Не адно добрае і злое бачыў на свеце і не адзін раз ужо ваяваў. Гэты дагавор, на мой мужыцкі розум, добрая, вельмі добрая справа. Адны крыху адступілі і другія крыху адступілі, ды дайшлі да згоды. Так павінна быць. Бо інакш, які выхад? Вайна? Каму яна патрэбная? Ніхто ж яе не хоча! Чуў, што адна атамная бомба нішчыць усё навокал на адлегласці 50-ці кіламетраў. Дык хто тады застанецца на свеце?

— Што вы кажаце? — са здзіўленнем глядзіць на мяне селянін Трусевіч з вёскі Дубіны ў Гайнаўскім павеце. — Сапраўды падпісалі такі дагавор? Не чуў. Толькі цяпер работы ў полі. Няма часу на радыё і на газеты. Але калі так, дык добра.

— Вось, каб услед за Маскоўскім дагаворам падпісалі другі, які цалкам забараняў бы выкарыстанне ядзернай зброі, які прымусіў бы знішчыць увесь запас гэтай д'ябэльскай зброі. Тады чалавек адчуваў бы сябе ўжо зусім шчаслівым і спакойным за сваю будучыню.

Гэта словы шафёра Гайнаўскага ПЗГС-у, таварыша Скаскевіча. Чацвёртай асобай, з якой давялося мне гаварыць аб Маскоўскім дагаворы, была жанчына, касірка з Гайнаўскай чыгуначнай станцыі. Яе прозвішча Плева.

— Так, чула аб тым дагаворы, — адпавядае яна на маё пытанне. — Што думаю? Людзі будуць жыць спакайней. Вайна нас будзе менш палохаць.

Вось што я пачуў ад гэтых чатырох асоб аб Маскоўскім дагаворы. У кожнай з гэтых асоб розны жыццёвы вопыт і розныя меркаванні. Супольным для іх з'яўляецца толькі выразнае пачуццё нейкай ільготы, якую дае падпісанне Маскоўскага дагавору. Хаця на аснове так абмежаваных выказванняў цяжка рабіць шырэйшыя вывады, думаю аднак, што не разыйдуся з праўдай, калі скажу, што пачуццё ільготы, пачуццё вышэйшай бяспекі — агульнае для ўсіх людзей, якім сапраўды дарагі мір.

**В. РУДЧЫК**

# Спорт

Футбол поўнасцю ўзяў у панаванне нашыя стадыёны. У мінулую нядзелю рушыла ў спаборніцтва II ліга, у гэтую пачынаюцца гульні класа «А» і лігі юніёраў. Здзіўляе толькі так запознены старт ніжэйшых класаў. Потым надрабляць страчаны час трэба будзе на балоцістых палях, а гэта не павысіць спартыўнага ўзроўню матчаў.

Але ў футболе шмат анархіі не толькі сярод ігракоў. Элцкая афёра, аб якой мы ўспаміналі ў мінулым тыдні, ставіць дрэнную ацэнку нават футбольнай кіруючай гары. Футбольны саюз не заняў яшчэ ў гэтай справе свайго становішча. Накіраванне справы ў пракуратуру не апраўдвае малой актыўнасці саюза ў высвятленні гэтых прыкрых фактаў.

А гульні ідуць сваім ходам. Люблінянка пасля першага тура ўзначаліла нават турнірную табліцу II лігі. Але не ў гэтым рэч. Разабрацца ў сапраўднай вартасці каманд пасля першых выступленняў немагчыма. Навічкі I лігі Шамберкі і Унія ўзялі чарговыя грозныя перашкоды, гэтым разам на полі праціўнікаў, — першая перамагла жэшаўскую Сталь, другая — хожаўскі Рух. Далейшыя гульні гэтых каманд выклікаюць вялікую цікавасць.

А што цікавага ў беластоцкай лізе? Нічога. Насуперак перадсезонных прадказванняў трэнераў, каманды гуляюць слаба. Пасля двух гульняў без страты пунктаў засталіся толькі Гусар і Влукняж, але гэта хутчэй вынік слабасці іх дагэтуляшніх праціўнікаў. Асабліва гэта адносіцца да беластачан.

У Беластоку цяпер у III лізе аж тры каманды, але ніводнай з больш - менш цікавымі перспектывамі. У гэтым сэнсе куды больш цікавасці выклікае Ягелёнія, якая ў гульнях за пашпарты ў III лігу павінна быць галоўным фаварытам. Мы ставім на яе.

**Аут**

# Васіль Цёркін на тым свеце

**Пад такім загалоўкам А. Твардоўскі, аўтар славутага «Васіля Цёркіна», напісаў новую паэму, якая стваралася на працягу 9 год. Чытаў яе аўтар нядаўна ў час сустрэчы еўрапейскіх пісьменнікаў з М. Хрушчовым. Паэма выклікала сярод прысутных вялікае ўражанне. 18 жніўня паэму надрукавала «Ізвесція». У наступным нумары «Васіль Цёркін на тым свеце» будзе друкавацца ў «Ніве».**




Ноч апусцілася на Карлслуст — ціхая, цёплая. Месяц высока стаяў у небе і мяккія промні яго серабрылі зубцы і шпілі адзінокага старыннага замка. Усё навокал спала — і таполі, якія апаясалі сцены замка, і маленькае азерца, якое прытулілася да замкавай гары, і сам замак.

Перад галоўнымі варотамі быў перакінуты праз роў цяжкі гарбаты мост. Ад мосту да сцен замка цягнуліся масіўныя жалезныя ланцугі. Раней, у эпоху рыцараў ланцугі гэтыя з наступленнем цемры прыходзілі ў рух і падымалі мост. Цяпер жа пад'ёмны механізм моста ўяўляў сабою кучу іржавых барабанаў і зубчатых колаў, ланцугі павіслі і былі абвіты плюшчам. Сам мост, які назаўсёды страціў здольнасць падніматца, ляжаў упоперак рову, парослага крапівой і лазняком.

218

Была другая гадзіна ночы, калі ля гарбатага моста з'явіліся тры цені. Яны перасеклі роў, наблізіліся да сцяны замка. Раптам кінуліся ўбок, замерлі. Пачуўся шорах, трэснула галінка, і міма, высока падняўшы зад, праскакаў звярок.

— Кролік, — прашаптаў маёр Перцаў. — Каб цябе!..

Аскер апусціў пісталет і звярнуўся да капітана Люлько.

— Праверце вароты.

Люлько кіўнуў, скрыўся за выступам сцяны. Неўзабаве ён вярнуўся.

— Вароты замкнёны. Давядзецца цераз сцяну. Я ведаю месца, дзе гэта зручна.

— Вядзіце.

Люлько пайшоў наперад. За імі рушылі апошнія.

— Тут, — сказаў Люлько, калі разведчыкі апынуліся каля старой сасны. Дрэва было высокае, яго верхнія галіны працягваліся над зубцамі сцяны. Спусціцца ў сад было не цяжка. Люлько меў вяроўку.

І вось яны ў разросшымся, адзічэлым парку. У глыбіню парка вяла алея. Аскер і яго таварышы асцярожна пайшлі па ёй, хаваючыся ў густым цені дрэў. Часам яны спыняліся і прыслухоўваліся. Недзе павінен быць патруль. Вяртаючыся пасля другога наведвання замка, капітан Люлько сустрэў

21[illegible]

грузавік, які вёз на замак шасцёра салдат; справа была вечарам, таму можна было меркаваць, што салдаты ехалі для начной аховы генералаў СС.

Патрулі выявілі, калі прайшлі паўдарогі. Лежачы ў карчах, разведчыкі праводзілі позіркам двух аўтаматчыкаў, якія нетарапліва ішлі па алеі. Салдаты прайшлі так блізка, што да іх можна было дастаць рукой.

Вычакаўшы, разведчыкі працягвалі шлях. Алея закончылася. Спераду адкрылася паляна. На ёй і ўзносіўся галоўны будынак замка. Навокал яго паяском цягнуўся хмызняк.

Замак спаў. Цішыню парушала толькі лёгкае паскрыпванне пяску пад нагамі вартаўніка, які прахаджваўся перад уваходам. Неўзабаве з'явіўся яшчэ адзін салдат, які абходзіў будынак.

— Чацвёра, — сказаў Люлько. — Бадай і ўся ахова.

— Дык іх было шэсць, — засупярэчыў Перцаў.

— Двое, трэба меркаваць, адпачываюць. Змена.

— Гэта толькі меркаванне, — сказаў Аскер. — Якое акно?

— Сёмае ад увахода, злева.

Зноў з'явіўся салдат, які абходзіў будынак.

— Мінута, — сказаў Перцаў, які падлічыў, колькі часу займае шлях аўтаматчыка навокал будынка.

Яшчэ тры мінуты чакання. Яшчэ тры рэйсы вартаўніка навокал дома.

220



 

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ

# ГАЗНІКІ

Бацька любіў Сцяпана. Лежачы на смяротнай пасцелі, ён глядзеў на сына і гаварыў:

— Цяжкім будзе... ваш лёс... ой!... цяжкім...

Паяўляўся старэйшы брат, Іван, але яго мала цікавіла бацькава смерць. Заходзіла цётка Ганна і прыносіла яду. Хворы прасіў сястру:

— Стаўляй каля ложка так, каб я сам мог дастацца рукою, бо ўсё паесць Уліся...

— Думаеш выжыць? Памрэш, памрэш, памрэш, — прыгаварвала Уліся, родная жонка. І, як магла, крала Ганіны прысмакі.

— Памрэш і ты... — ціха агрызаўся старой.

Ужыў ён гора з гультаяватай Уліcяй — сілаю наганяў яе да работы. А яна ў жніво, бывала, забяжыць на пагорак да падкаменскіх хутароў ды крычыць:

— Тут не наб'еш мяне, людзі бачаць!

Такімі вось былі Пракапюкі, што ў Курашаве празвалі іх Газнікамі.

* ✲ *

Стары памёр. Іван лячыўся ў бальніцы ад небяспечнай хваробы — туберкулёзу касцей. Гаспадаром стаўся пятнаццацігадовы Сцяпан.

— Дзіця беднае! Без пары здароўе патраціш, — слязіліся над ім суседзі.

Сцяпан зненавідзеў гэтакую літасць. Адчуваў сябе паніжаным ёю і тым мацней браўся за працу.

— Паглядзіце, паглядзіце, як хлявы і гумно аглядае, ўсё роўна бы будавацца задумаў? — пасмейваліся некаторыя, намякаючы на бацькоўскі запас дрэва на цэлую хату.

Увечары хлопец вяртаецца з ворыва. У хаце не наварана, не прыбрана. Маці Уліся пачула волю, калі не стала бацькі. Зранку да цямна пляткуе па ўсёй вёсцы; тырчыць на вуліцы, перапыняе бабаў бы тая цыганка:

— Стань, рыбачка, пагаворым троху Не спяшай — напрацуешся...

Бабе няцерпіцца, трэ' ісці вячэру гатаваць, але не так проста адчапіцца ад Улісінай размовы. Праўдзе да парога ды яшчэ запытае:

— Што ж, рыбачка, добранькага маеш у сябе? Дай паесці, не шкадуй.

Сцяпан не паддаваўся неласкаваму лёсу, які прадракаў бацька.

— На бацьку ўдаўся, — казалі аб ім старэйшыя. — Затое Іван — гэта чыстай вады Уліся, кропля ў кроплю.

— Гэта мой пісар, — насмешліва празваў яго Сцяпан.

Аднак, калі на другі год Іван вярнуўся з бальніцы, у хаце Пракапюкоў прапаў усякі лад.

— Шкадуеш мне выпіць!? — закіпеў Іван.

— Ідзі! Прадавай, усё прадавай! — не вытрымаў Сцяпан.

Іван, як дарослы чалавек, прыгразіў сваім **правам на гаспадарку.** Уліся гадзіла сыноў па-свойму:

— Піце, хлопцы, піце і гуляйце, маладзенькія вы мае.

Нябожчык бацька аж занадта знаў сваю старую і таму нічога добрага не спадзяваўся для асірацелых сыноў. — «Толку не будзе з іх; крадуць сваё з хаты» — наракаў ужо тады перад знаёмымі.

І вось — як бы ў пацвярджэнне нябожчыкавых слоў — аднаго ранку курашаўская аколіца затраслася ад страшнай навіны.

**(Працяг на стар. 4)**

З ЖЫЦЦЯ БГКТ

## КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫ КУРС У АЛЬШТЫНЕ

У ліпені б.г. у Альштыне адбыўся культурна-асветны курс для нацыянальных меншасцей. У курсе прынялі ўдзел беларусы, літоўцы, украінцы. Трэба адзначыць, што ўзровень курса быў высокі, а ў сувязі з гэтым удзельнікі яго атрымалі шмат карысных ведаў. Міністэрства культуры і Галоўнае праўленне Украінскага грамадска-культурнага таварыства, якія былі арганізатарамі, улажылі шмат грошай. Паміма цяжкасцей, якія сустракаліся ў час арганізацый, курс быў вельмі ўданым. Удзельнікі курса пазнаёміліся з рэжысерыяй, літаратурай, характарызацыяй, якая мела сур'ёзныя недахопы ў нашай працы з самадзейнікамі на вёсцы.

Мы яшчэ замала маем адпаведна падрыхтаваных людзей да кіравання мастацкімі гурткамі. І таму ў будучыні трэба лепш праводзіць рэкрутацыю, дабіраць такі час, калі б больш людзей магло прыняць удзел.

Курсанты свой час вольны ад працы праводзілі культурна: хадзілі ў тэатр, ездзілі на экскурсіі, арганізавалі танцы. Усюды адчувалася сімпатыя, сужыццё і агульнае зразуменне.

Зараз цяжка гаварыць пра вынікі гэтага курса. Можна будзе поўнасцю ацаніць толькі ў практыцы г.зн. у працы з мастацкімі гурткамі.

**Раман Цікуй**
член ВПУГКТ
у Альштыне



**На здымку: удзельнікі курса к/а Беларускага таварыства супольна з прадстаўнікамі ВДК, ГПУГКТ і украінскімі сяброўкамі і сябрамі.**

**Фота аўтара**



# У АЎГУСТОВЕ

Адным з найпрыгажэйшых куткоў Беласточчыны несумненна з'яўляюцца Аўгустоўскія азёры. Ды ці толькі Беласточчыны? Тут, як рэдка дзе, прырода не паскупіла сваёй непаўторнай прывабнасці. Нічога дзіўнага, што памалу Аўгустоўшчына робіцца ўсё большым магнітам для турыстаў. Тут ім сапраўдны рай.

Для скептыкаў змяшчаем фотарэпартаж нашага фотакарэспандэнта Г. Рагазінскага, зроблены ім днямі ў Аўгустове.







І раптам прамень ліхтарыка ля ўвахода, мігаценне святла ў вокнах — і яшчэ двое патрульных на дарозе.

— Не! — Аскер сціснуў руку Перцава. — Нельга рызыкаваць, правалім усю справу.

Быццам у пацвярджэнне гэтых слоў недзе ў замку глуха залаялі сабакі, асвятлілася яшчэ адно акно.

— Што рабіць? — прашаптаў Перцаў.

Аскер не адказаў. Рухнуў увесь план, складзены разведчыкамі пасля таго, як яны праслухалі гутарку эсэсаўцаў з Фрэдам Тэдарам. Галоўным у плане было дастаць адрас агента іншаземнай разведкі, які Тэдар перадаў Зэйферту. І вось цяпер Аскер адмовіўся ад рашэння ісці ў замак; найменшая недакладнасць, выпадковасць, загубілі б усё тое, што яны дабіліся з такой цяжкасцю.

— Што рабіць? — паўтарыў Перцаў.

— Уцякаем. А там падумаем...

Зноў мільганулі тры цені на краі алеі парка, ля зубчатай сцяны, на гарбатым мосце.

Разведчыкі адыйшлі далей ад дарогі, заляглі ў густым арэшніку. Тут трэба было чакаць да раніцы — ісці ў горад ноччу яны не маглі.

Аскер сядзеў, абхапіўшы рукамі галаву. Што ж рабіць? Як дастаць адрас агента, які звязаны з Тэдэрам? Ад таго, ці патрапяць яны ўстанавіць, дзе хаваецца гэты чалавек, залежыць вельмі многа.

229

Аб гэтым жа напружана думалі і двое іншых разведчыкаў.

Вырашэння не было.

Гадзіна прайшла, за ёй другая, а яны ўсё сядзелі ў арэшніку.

Зрабілася сыра. Памалу пачалі выступаць контуры замка — быццам замак праяўляўся ў ванначцы фатографа.

Набліжалася світанне.

Аскер падняў галаву, наёжыўся.

— Няўдача, — глуха сказаў ён. — Дык Тэдар сёння выязджае!...

«Сёння выязджае». Перцава быццам ударыла.

— А з замка яшчэ не выходзіў, разумееш? — Ён схапіў Аскера за руку.

Секунду яны глядзелі адзін другому ў вочы. Аскер парывіста прыціснуў і абняў таварыша. Ён зразумеў яго з паўслова. На самай справе, Тэдар пасля гутаркі з Зэйфертам і Упіцам не пакідаў замка, там і заначаваў. А сёння выязджае. Значыць, павінен сёння сустрэцца са сваім чалавекам і перадаць яму абломак грэбеня. І калі пасачыць за Тэдарам.

**(Працяг за тыдзень)**

230

# СПАБОРНІЦТВА ГРАМАД ГАЙНАЎСКАГА ПАВЕТА ў дарожных чынах

Павятовая рада нарадовая ў Гайнаўцы на сесіі 5 сакавіка гэтага года прыняла пастанову, у якой гаворыцца між іншым:

«Прыступаецца ў 1963—64 гадах да ваяводскага спаборніцтва паміж паветамі ў аб'ёме дарожнай гаспадаркі на мясцовых дарогах»...

У далейшым змесце пастановы гаворыцца: «Для папулярызацыі ідэі спаборніцтва і дзякуючы гэтаму атрымання найлепшых вынікаў Павятовая рада нарадовая заклікае ўсе грамадскія рады нарадовыя да прыняцця падобных пастаноў і праявы ініцыятывы ў рэалізацыі на гэтым адрэзку паміж грамадамі».

Грамадскія рады нарадовыя адказалі на заклік Павятовай рады. Да спаборніцтва прыступілі ўсе грамады. Пасля некалькіх месяцаў сарганізаванай працы ёсць ужо вынікі. Выканана дарожныя работы на суму звыш 4686 тыс. зл.

Да гэтага часу першынство ў спаборніцтве маюць грамады: Кляшчэлі, Нараўка, Ляўкова Старое, Дубічы Царкоўныя, Арэшкава, Чаромуха і Палічна.

Найлепшыя вынікі ў спаборніцтве грамада Кляшчэлі мае дзякуючы ўласцівай паставе грамадскасці, а таксама ахвярнай працы старшыні гэтай грамады Яўгенія Ефімюка і дазорцы дарог і мастоў М. Якубоўскага.

У грамадзе Кляшчэлі пабудавана да гэтага часу 2 км жвіравой дарогі, выканана зямныя працы даўжынёю ў 3 км і засаджана 5000 штук фруктовых дрэвак.

Грамада Нараўка пабудавала каля 2 км жвіравой дарогі Альхоўка — Масева і 0,2 км брукаванай вуліцы на агульную суму 550 тыс. зл.

У Ляўкове пабудавана 1 км жвіравой дарогі Ляўкова — Ляшукі і падрыхтавана 1 км дарогі да далейшай будовы, выконваючы зямныя працы на гэтым адрэзку.

Многа грамад у нашым павеце маюць падобныя вынікі ў пабудове дарог да гэтых, якія атрымалі грамады: Кляшчэлі, Нараўка і Ляўкова Старое.

Спаборніцтва грамад у пабудове дарог прыносіць прыкметныя вынікі. Да канца гэтага года вынікі гэтыя будуць яшчэ большыя.

**Уладзімір Сац**
Гайнаўка

# КЛОПАТЫ І РАДАСЦІ

(Працяг са стар. 1)

тых складчын. Думалі купіць трактар з камплектам сельгасмашын. Але Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў нейк абыякава падыходзіць да нашых патрэб. Шкада. Трактар мог бы зрабіць шмат добрага не толькі на нашых палях, але і ў думках сялян. А гэта ў нас вельмі патрэбна.

### НЕПАДАЛЁКУ СТАРОЙ КАМЕНКІ...

...ёсць вёска Баброўнікі (не спалучаць з Баброўнікамі ў Беластоцкім павеце). Вёска з выгляду як і другія. Простая вуліца, па баках дамы. І ляжыць яна, так сказаць, не ў нейкай там забітай ад свету дошкамі глушы.

Да шасейнай дарогі, якая спалучае Крынкі з Саколкай, усяго чатыры кіламетры. Да самай Саколкі мала больш. А ў вёсцы такая глуш і адсталасць, што падобнай не знойдзеш мабыць ва ўсёй Сакольшчыне.

— Ва ўсёй вёсцы, — кажа старшыня прэзідыума, — знойдзеш адно радыё і тое з навушнікамі. Жыхары не чытаюць газет, часопісаў. А кніжку, калі не лічыць кантычак, знойдзеш толькі ў сумцы школьніка. Плуг, серп і цэп тут усё яшчэ асноўныя сельскагаспадарчыя прылады. Паспрабуй, скажы ім аб прагрэсе ў сельскай гаспадарцы.

— А вы, як гаспадар сваёй грамады, спрабавалі?

— Ды ці ж раз. Але іх, калі ўдасца два, тры разы ў год сабраць на сход, дык і гэта добра. Некалькі год таму назад праводзілі ў нас электрыфікацыю і радыёфонізацыю. Жыхары ўсіх вёсак дружна ўзяліся за гэтую справу. Шмат папрацавалі грамадскім чынам, але затое маюць цяпер электрычнае святло. Толькі Баброўнікі без святла засталіся. Нікому не ўдалося арганізаваць іх да грамадскага чыну. А трэба было ўсяго толькі падвезці на лінію стаўбы і выкапаць пад іх ямы. Дарма працаваць? Гэтага ў Баброўніках не было як свет светам. Так і жывуць па-свойму. Як ваўкі.

### З АБМАЛОТАМІ НЕ НАЙЛЕПШ...

...У Старой Каменцы. Хоць у сельгасгуртку ёсць два малацільныя агрэгаты, але тут ніхто не ўпэўнены, ці будзе імі карыстацца. Справа ў тым, што ў Бухвалоўскім ПОМ-е штогод малацільныя агрэгаты стаяць па некалькі месяцаў у рамонце. Які ж залог, што сёлета будуць яны на час рамантаваны? Другая справа, гэта непаладкі з сакольскай электроўняй. Штогод, як звычай, працаўнікі электроўні забіраюць сельгасгуртку лічнікі да электраматораў.

— Пакуль не будзе ў вас заложаных зачэпаў на электрычных стаўбах да карыстання электрычнасцю пры малацьбе, датуль не пазволім малаціць агрэгатамі, — кажуць працаўнікі электроўні.

У мінулым годзе па просьбе гуртка прыехалі ў Старую Каменку спецыялісты з Саколкі і заложылі зачэпы. Зараз пасля гэтага, калі пачалі малаціць, прыехаў з электроўні другі спецыяліст і прызнаў, што зачэпы выканаваны неправідлова. Ён забраў лічнікі, зрываючы абмалотачную акцыю. Сяляне ўзяліся за цапы, а новыя абмалотачныя агрэгаты адпачывалі. Гэтыя няшчасныя зачэпы і далей не выкананы. Электроўня не вярнула лічнікаў. Дзяржаве трэба здаваць нарыхтоўкі і рыхтаваць збажыну на пасеў. Чым малаціць? І зноў цапамі? Навошта тады сельгасгуртоk?

Ды і наогул працаўнікі электроўні шмат балагану ўводзяць ў сельскую гаспадарку павета. У мінулым годзе шмат сялян з грамады Старая Каменка па прапанове грамадскага агранома пасеяла кукурузу. Вырасла нядрэнная. Агроном намагаўся заахвоціць сялян да сіласавання кармоў. У гэтай мэце ён прывёз адпаведную машыну да рэзкі кукурузы і, сабраўшы сялян з некалькіх вёсак, пачаў наглядную лекцыю як рэзаць і сіласаваць. У гэты момант пад'ехаў працаўнік электроўні і па прычыне дрэнна заінсталяванага зачэпу адняў лічнік з электрарэзкі. Лекцыя сарвалася. Сіласаў ніхто не залажыў. А сёлета ніхто з сялян не пасеяў кукурузу.

— Як назваць такія адносіны? — пытае старшыня прэзідыума. — Гэта ж проста сабатаж.

Размова наша працягнулася за поўдзень. Працаўнікі прэзідыум неспакойна паглядалі ў вокны. У іх свае гаспадаркі. Пасля васьмігадзіннага дня працы ў прэзідыум іх чакае праца ў полі. Жніво. Мы развіталіся. Калі ехалі назад — вечарэла. Жнеі, ледзь цёгаючы ногі, зносілі нажатыя снапкі аўса ў пятакі. Раніцай, чуць свет, яны ізноў прыдуць на свае загонцы з гарбатымі серпікамі. У паветры духата, а неба без воблачка. Суша.

— Назаўтра ва ўсёй краіне, — гаварыў пасля тэлевізійных апошніх паведамленняў папулярны Віхэрэк, — пагода як іскра. Лета стагоддзя! Жадаем курортнікам добрага адпачынку і мора сонца.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

# Месцы масавых забойстваў будуць увекавечаны

У апошнім часе ў Сяміцічах развівае ажыўленую дзейнасць Павятовы грамадскі камітэт аховы помнікаў, месцаў барацьбы і пакутніцтва.

Дзякуючы яго стараннем у найбліжэйшай будучыні будуць увекавечаны месцы масавых забойстваў зробленых асабліва на яўрэях на тэрыторыі павета. І так, будзе ўпарадкаваная зборная магіла замардаваных у Цеханоўцу 700 яўрэяў і зборная магіла 140 яўрэяў замардаваных у Пабікрах, а таксама шэраг іншых масавых магіл ахвяр фашызму і ахвяр памардаваных бандамі ў пасляваенны перыяд. Трэба падкрэсліць, што на тэрыторыі Сяміціцкага павета ёсць многа масавых магіл. Найбольшая магіла знаходзіцца ў Панкелях, дзе спачывае прах замардаваных фашыстамі каля 25 тысяч асоб беларускай, рускай, польскай, чэшскай і іншых нацыянальнасцей. Ахвяры варварства былі прывезены на месца забойства самаходамі з лагера, які знаходзіўся ў Сухажэбрах (Варшаўскае ваяводства).

Зараз гэтае месца ўпарадкавана і паложана там мемарыяльная пліта.

Упарадкавана таксама могілкі салдат Чырвонай Арміі, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам у Мілейчыцах. На гэтых могілках пабудавана помнік, які ўстанавіла грамадства Сяміціцкага павета (на здымку).

Штогод у гадавіну ўтварэння Чырвонай Арміі дэлегацыі розных устаноў, школьная моладзь складае ля помніка вянкі і букеты жывых кветак.

Прадугледжваецца, што ўпарадкаванне месцаў масавых забойстваў у Сяміціцкім павеце закончыцца ў гэтым годзе. Апрацуецца і перакажацца Саюзу змагароў за свабоду і дэмакрацыю альбом, у якім будуць апісаны гэтыя месцы забойстваў.

**Пётр Новік**



(Працяг са стар. 3)

# ГАЗНІКІ

— Чулі? Ванька і Сцёпка Пракапюкі да сполкі з Пятром Сцепанюком пакралі авец на кленіцкіх хутарах! Колькі? Пяць — пяць тлустых авечак, і патапілі іх, вунь, у нашай рэчцы, бо гаспадар ішоў следам... Ваня біў тамтога гаспадара, адганяў... А-яй-яй-яй...

— Пашто ім было браць зразу аж пяць? — бедавала Уліся. — Хай узялі б адну...

— Будзе суд у Гайнаўцы!

Ганін муж, Іван Тэслюк, адразу рашыўся:

— Я найму адваката і абараню Сцёпку; пасля ўсынаўлю яго. Сваіх дзяцей нам Бог не паслаў...

Што Тэслюк абароніць — ніхто ў тым не сумняваўся. Хто ж можа мець больш грашыскаў, калі не ён?!

Ды не ўсё пайшло гэтак гладка, чымсьці здавалася. Адна Уліся не перэймалася лёсам сыноў.

— Там ім не турма, а роскаш. Гэта тут, у хаце, ім турма была, — пацяшала сяго - таго.

— Пэўна, — сквапліва згаджаліся суседзі. — Там, у турме, хоць паядзяць у час ды ў пору, адпачнуць ад гарэлкі і чысцей адзенуць іх...

Але не век векаваць у турме. Братоў выпускаюць.

— Гэта ты, Газнік??

Знаёмы быў надта здзіўлены, калі ўбачыў Сцяпана на шасэ каля Збуча, як правярае ён фурманкі і «лепіць» гаспадарам мандаты за тое, што не маюць абавязковых сігнальных шкелцаў. Сцяпанаў мандат рэдка быў меншы ніж 100 злотых...

На літар гарэлкі!

Родны дзядзька Карп з Рэпіск таксама паспяшаў ратаваць блудных юнакоў ад другой турмы.

— Кіньце, хлопцы, красці. Вазьміцеся за гаспадарку! Добра раю вам.

Дарожнік Чабай з Новаберазова спакойна пад'ехаў на матацыкле пад Гайнаўскі рэстаран, дзе на вярху знаходзіцца павятовы аддзел камунікацыі. Меў службовую справу да шэфаў камунікацыі. Калі ж праз паўгадзіны выйшаў назад, на вуліцу, не паверыў уласным вачам. Матацыкл быццам высах! Сцяпан — паабедаўшы і не заплаціўшы ў рэстаране — на тым жа матацыкле пёрся ўжо ў Барысаўку — на вечарыну. У вёсцы з месца прыступіў да гандлю.

— Купляйце матор, дорага не вазьму. Што? Не хочаце?...

Завёў матацыкл у хлеў, піхнуў з ломатам у сярэдзіну, і перапалоханай гаспадыні выясніў:

— Не бойся, баба. Па яго прыедуць...

На вечарыне чуваць музыку і смехі. Ён ідзе туды.

— Газнік!

Дзяўчына вытрашчыла вочы.

— Хадзі! — Сцяпан бярэ яе за руку. Ну, хадзі, пайшлі!

— Не пайду! — гвалтоўна пратэстуе яна.

— Што такое?

...Выводзіць дзяўчыну ў цемень ночы. Усе маўчаць.

Жыццё Пракапюкоў лічылася ад суда да суда; ад прыезду з турмы да выезду ў турму. Часамі толькі знаходзіліся ў хаце разам — абодва. Вярнуўся Сцяпан — забралі Івана; вярнуўся Ваня — забралі Сцёпу.

— Апамятайся хоць ты, Сцяпан! — прасілі - малілі блізкія. — Што чаўпеш!?

— Адумацца, кажаце, — Сцяпан злосна свідраваў вачыма. — Засмяюць людкове, што турма навучыла мяне жыць. Ха-ха-ха-ха, дурні...

Сцяпану Матвеюку, даўняму кампаньёну Пракапюкоў, таго і трэба. Няхай сабе Газнікі кідаюцца ў амбіцыю. Затое яму ёсць дзе пасвіць дзесятак кароў і чараду авец на аблогах іхняй закінутай гаспадаркі. Старайцеся, хлопчыкі, пабольш валяцца па турмах!

Матвеюк не бялее пры слове «Газнік», але на кленіцкіх або падкаменскіх хутарах мае яно магічную сілу.

— Адзін у полі не воін!

Напраўду — чалавек на хутары і адзін, і ў полі; і, што рабіць, калі завітаюць Ваня са Сцёпкам, якім вельмі хочацца смачна паесці, а перад усім, добранька папіць; прытуліцца да маладзіцы...

Адчайныя: з нажамі ходзяць. Ведаў пра гэта і ляснік. Цярпеў ён, цярпеў Ваневы вырубкі ды,

# ЧЫМ ПАКРЫТ МЕСЯЦ

Спрадвеку людзі бачылі на небе светлы Месяц, а на ім — узор з цёмных плям. У астраноміі гэтыя плямы маюць часта ўмоўную назву «моры». Абмяркоўваючы іх прыроду, некаторыя даследчыкі даўно выказвалі думку, што цёмная і светлая афарбоўка розных зон месячнага шара выклікаецца неаднолькавым складам грунту.

Цяпер высветлілася, што ўвесь Месяц цёмны, амаль чорны. Гэтыя звесткі ўдалося атрымаць дзякуючы ўжыванню новых метадаў даследвання — фотаметрыі, якая вывучае асаблівасці адлюстроўвання сонечных праменняў ад паверхні Месяца, радыёметрыі, якая дае магчымасць вызначаць тэмпературу гэтай паверхні ў розных месцах і ў розны час. І, нарэшце, радыёастраноміі, якая вывучае радыёхвалі, што ідуць ад Месяца.

Устаноўлена, што найбольш цёмныя ўчасткі Месяца адлюстроўваюць не больш як 5 працэнтаў сонечнага святла, самыя светлыя — да 15 працэнтаў. Гэта значна ніжэй таго, што адлюстроўваюць такія цёмныя зямныя горныя пароды, як базальт і дыябаз. Рэчыва, якое ўсцілае паверхню Месяца, па сваёй вельмі цёмнай карычнявата чорнай афарбоўцы нагадвае шакалад.

Якая ж структура гэтага рэчыва?

Вывучэнне тэмпературы паверхні пацвярджае вывад вучоных аб тым, што рэчыва Месяца нагадвае губку. Блізкую да гэтага структуру маюць зямныя вулканічныя шлакі. Цеплаправоднасць месячнага грунту вельмі нізкая, а гэта значыць, што ён складаецца з матэрыялу, які з'яўляецца добрым цеплаізалятарам.

Да аналагічных вывадаў прыводзяць вынікі радыёастранамічных назіранняў. Паколькі радыёхвалі часткова пранікаюць у глыб месячнага грунту, можна сцвярджаць, што вельмі порыстая губчатая структура распасціраецца і ў глыбіню прынамсі да аднаго метра — такі вывад на падставе радыёастранамічных назіранняў зрабіў нядаўна савецкі вучоны Усевалад Троіцкі.

Як паказалі работы па радыёлакацыі Месяца, апублікаваныя за апошнія 5 гадоў амерыканскімі астраномамі, паверхня Месяца (зрытая і шурпатая для светавых праменняў) адлюстроўвае радыёхвалі даўжынёй у 10 сантыметраў і больш люстраная, як глянцавітае рэчыва. Гэта значыць, што тыя няроўнасці, якія ўтвараюць мікрарэльеф паверхні Месяца, невялікія і хутчэй за ўсё маюць размеры парадку некалькіх міліметраў.

Яшчэ нядаўна сярод астраномаў была распаўсюджана думка, што бачная паверхня Месяца складаецца са шчыльных горных парод вулканічнага паходжання. Меркавалася, што яны захаваліся ў сваім «першапачатковым» выглядзе з вельмі даўніх часоў дзякуючы таму, што на Месяцы няма ні вады, ні атмасферы, няма тых працэсаў выветрывання, якія ў нас на Зямлі разбураюць каменне і скалы. Цяпер такі погляд на прыроду паверхні Месяца прыходзіцца адкінуць: шчыльны камень не мае тых уласцівасцей, якія характэрны для паверхні Месяца. Цяпер можна лічыць устаноўленым, што паверхня Месяца ўсюды пакрыта аднароднай коркай пазнейшага паходжання. Гэтае покрыва ўсюды мае вельмі цёмную афарбоўку і моцна порыстую будову.

Як гэта покрыва ўзнікла? Адносна гэтага былі выказаны розныя меркаванні.

Існавала гіпотэза, згодна з якой паверхня месячных скал растрэскваецца і здрабняецца пад дзеяннем ваганняў тэмпературы і іншых прычын і ператвараецца ў дробны цёмны пыл, здольны перамяшчацца на вялікія адлегласці. Гэты пыл і ўтварае на Месяцы складанае покрыва, якое месцамі дасягае таўшчыні ў тысячы метраў. Аднак гэтая гіпотэза натыкаецца на некаторыя «цяжкасці». Яна, напрыклад, супярэчыць даным фотаметрыі.

Усе «цяжкасці» былі зняты гіпотэзай, распрацаванай ленінградскім прафесарам Надзеяй Сыцінскай. Яна лічыць, што покрыва месячнай паверхні прадстаўляе з сябе рэчыва, якое падобна на вулканічны шлак і ўзнікла ў выніку ўдараў метэарытаў. Зямля захавана ад гэтых нябесных каменняў атмасферай, у якой дробныя метэорныя часцінкі рассейваюцца ў выглядзе «падаючых зорак». Да зямной паверхні даходзяць толькі больш буйныя метэарыты, але іх скорасць вельмі змяншаецца супраціўленнем паветра. На Месяцы атмасферы няма, і таму там кожная часцінка ўдарае ў грунт са сваёй поўнай касмічнай скорасцю, якая складае дзесяткі кіламетраў у секунду. Разлік паказвае, што пры ўдары выдзяляецца так многа энергіі, што звычайны камень-метэарыт параджае выбух, па сіле параўнальны з дзеяннем атамнай бомбы. Атрымліваецца вельмі высокая тэмпература, каменні кіпяць і ператвараюцца ў чорны пузырысты шлак, які і пакрывае ўвесь Месяц.

Як праверыць такія меркаванні? Радыкальным з'яўляецца толькі адзін спосаб — дасягнуць паверхні Месяца і вывучыць яго матэрыял на месцы.

**УСЕВАЛАД ШАРОНАЎ**
прафесар доктар фізікаматэматычных навук



Святлана Макарава ў беларускім фільме «Распаленая куля».

ВЕСТКІ БССР

# БЕЛАРУСКІ ФІЛЬМ

...Завілістымі завулкамі бяжыць босая дзяўчына, у кашулі, з распушчанымі валасамі. Вочы поўныя жаху. За ёю імчацца галопам на конях двух мужчын, адзетыя ў цёмнасінія паліцэйскія мундзіры, з шаблямі. Конскія капыты вось, вось дастануць да галавы дзяўчыны, калі тая раптам упадае ў натоўп людзей, якія стаіць побач...

Гэта адзін з кадраў новага кінафільма пад часовым загалоўкам «Распаленая куля», рэалізаванага ў Вільнюсе беларускімі рэжысёрамі. Фільм, хаця прысвячаецца жыццю беларускай камуністкі Веры Харужай, не мае, аднак, выключна біяграфічнага характару. Праўда, знойдзем у ім шмат аўтэнтычных фактаў з жыцця гераіні, але складаюць яны толькі выходны пункт да паказання больш агульных спраў самаахвярнасці простых людзей, іх адвагі і вернасці справе грамадскай рэвалюцыі.

Фільм «Распаленая куля» рэалізуецца паводле сцэнарыя беларускага пісьменніка А. Кучара. Галоўную ролю выконвае Святлана Макарава, выхаванка Дзяржаўнага інстытута мастацтваў і вучаніца вядомага савецкага педагога А. Раеўскага. Мае яна ў фільме вельмі цяжкае заданне, таму што будзе перадаваць эпізоды з жыцця Веры Харужай на працягу дваццаці гадоў: ад маладой дзяўчыны, аж да саракагадовай, сталай жанчыны.

Акцыя фільма адбываецца ў санацыйнай Польшчы.

а (лів)

Начны пленэр з гэтага фільма.



# ЯК УБЕРАГЧЫСЯ АД МАЛАНКІ

У час навальніцы небяспечна падыходзіць да грамаадводаў або высокіх адзіночных прадметаў (слупоў, дрэў) на адлегласць меншую за 8—10 м. Калі навальніца застала цябе далёка ад памяшкання, ні ў якім разе не хавайся пад дрэвамі.

У навальніцу не заставайся на ўзвышаным або адкрытым месцы. Лепш хавацца ў паглыбленнях на схіле ўзгоркаў, паблізу вялікіх каменняў. Калі можна, выбірай месца пасярэдзіне паміж двума дрэвамі, якія растуць на адлегласці 15—20 м адно ад другога.

Каб захавацца ад шаравой маланкі, зачыняй вокны, дзверы, паветраправоды (вентыляцыю, дымаходы). Перашкодай для пранікнення шаравой маланкі ў памяшканні служаць заземленыя металічныя сеткі з адтулінамі не больш 4x2 см і таўшчынёй дроту 2—2.5 мм, якія ўстанаўліваюцца над выхаднымі адтулінамі труб, у вентыляцыйных праходах і г.д.

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Адзін з публіцыстаў на захадзе назваў савецкую асветную сістэму «галоўнай сакрэтнай зброяй рускіх». Аднак у гэтай зброі няма нічога сакрэтнага. Дзверы савецкай школы адкрыты перад усімі.

У СССР цяпер вучыцца 23 тысячы студэнтаў з 114 краін. Сярод іх вялікую групу — звыш 7 тысяч асоб — складаюць прадстаўнікі маладых дзяржаў. Госці вучацца амаль у 300 вышэйшых навуковых установах.

Аднак СССР не абмяжоўваецца тым, што гасцінна адчыняе дзверы сваіх ВНУ. У мінулым годзе выпусціў першых інжынераў Бамбейскі тэхналагічны інстытут у Індыі. Яго лабараторыі, навуковыя карпусы абсталёўваліся савецкімі прыладамі, савецкія вучоныя супольна з індзейскімі наладжвалі тут вучэбны працэс.

У мінулым годзе прыняў студэнтаў Гвінейскі палітэхнічны інстытут у Канакры — першая вышэйшая ўстанова краіны. Яго праектаванне, будова і абсталяванне, арганізацыя вучэбнага працэса вядуцца з дапамогай савецкіх спецыялістаў.

У Бірме СССР пабудаваў і абсталяваў самую вялікую тэхнічную ўстанову краіны — тэхналагічны інстытут (на здымку ўнізе). Разлічан ён на 1100 слухачоў.

Цяпер заканчваецца будова тэхнічнай школы на 1000 слухачоў у Эфіопіі, гэта дар СССР. У Камбоджы будуецца вышэйшае тэхнічнае вучылішча — таксама дар СССР. Праектуецца шэраг вучэбных устаноў для Рэспублікі Малі, Афганістана і Туніса.





Рэспубліка Чад — краіна, якая атрымала незалежнасць у жніўні 1960 года — знаходзіцца ў паўночнай частцы Экватарыяльнай Афрыкі, на поўдзень ад Сахары. Плошча 1284000 км², пражывае 2570000 людзей, якія канцэнтруюцца галоўным чынам на тэрыторыях, акружаючых возера Чад (паўднёвазаходняя частка краіны). Галоўны занятак людзей — гадоўля быдла.

Сталіцаю дзяржавы з'яўляецца Форт Лямы над ракою Шары.

На здымку: Вулічны рынак у Форт Лямы.

## Касметыка

Чай, які застаўся ад заваркі, заліце зноў варам і атрыманым настоем апаласніце валасы. Каштанавыя валасы набываюць залацістае адценне.

Слабая заварка ўжываецца для асвяжаючых прымочак на вочы.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Трыбуна чытачоў

## ЛЕТНІЯ ДЗЯЦІНЦЫ

Лета, гэта перыяд найбольш насіленай працы ў сельскай гаспадарцы. У такі час бацькі, як звычай, не маюць часу належна заняцца дзяцьмі. Не ў кожных таксама ёсць магчымасць пакінуць дзяцей пад належнай апекай. Дзеці без догляду здольныя да ўсяго. Знойдуцца ў іх руках запалкі, і няшчасце зараз жа можа выбухнуць. Як выказвае статыстыка, у сярэднім на працягу аднаго года пакінутыя без апекі дзеці з'яўляюцца прычынай 4 тысяч пажараў. Гэта ж мільярды злотых затрат! Таму зараз кладзецца вялікі націск на арганізацыю вясковых дзяцінцаў у летнім перыядзе. На жаль, сродкі, якія кладзе дзяржава на гэтыя мерапрыемствы, выкарыстоўваюцца далёка не поўна. Напрыклад, сёлета ва ўсім Сакольскім павеце было арганізавана толькі 13 дзяцінцаў.

— Фінансавыя магчымасці, — гаворыць адказны працаўнік інспектарата, — былі ў нас значна большыя.

У чым жа справа? Мо' бацькі неахвотна адносяцца да дзяцінцаў?

— Ёсць і такія выпадкі, але рэдка. Найважнейшая справа ў тым, што Інспектарат не ў сілах забяспечыць дзяцінцаў кваліфікаванымі педагагічнымі кадрамі. Настаўнікі вельмі неахвотна згаджаюцца ў час канікул працаваць у дзяцінцу. Хіба толькі, калі захочуць падзарабіць.

Менавіта з гэтай прычыны на 17 асоб прынятых да працы сёлета на Сакольшчыне пры дзяцінцах толькі 9 мела адпаведныя кваліфікацыі. Апошнія ніколі і нічога супольнага не мелі з педагогікай. Хто яны такія? Калі ласка. У Сукавічах, напрыклад, кіравалі дзяцінцам дзве дзяўчынкі, якія закончылі засадніцую кравецкую школу.

— Гэта яшчэ добра, — кажа працаўнік інспектарата. — Бываюць выпадкі, што дзяцінцам кіруе асоба, якая не толькі што не мае кваліфікацыяў, але і наогул адукацыі.

Факты такія існуюць зрэшты не толькі на Сакольшчыне. Іх часта сустрэнеш ва ўсіх паветах Беласточчыны.

Неахвотай настаўнікаў да вядзення вясковых дзяцінцаў няма чаго здзіўляцца. Пасля гадавой працы ім хіба належыць адпачынак. Нічога тады дзіўнага, што калі настаўнік і згаджаецца ў час канікул працаваць, дык хоча паехаць на нейкую калёнію ў горы ці над мора, адным словам у больш атракцыйную мясцовасць. Але ж і вясковых дзяцей нельга пакідаць у гэты перыяд без належнай апекі. Асветныя ўлады абавязаны знайсці выхад з гэтай крытычнай сітуацыі. Чаму, напрыклад, не выкарыстаць у гэтай мэце больш здольных вучняў апошніх класаў падагагічных ліцэяў? Для іх гэта будзе вельмі добрая практыка, падрыхтоўка да будучай прафесіі. Ну і матэрыяльны бок, мабыць, таксама неабыякавы. За працу ў дзяцінцы інспектараты плацяць. Прыклады (хоць вельмі рэдкія) сведчаць, што вучні ліцэяў вельмі добра спраўляюцца ў дзяцінцах. Задаволены і бацькі і дзеці. Чаму ж тады не выкарыстаць іх у шырэйшым маштабе. (вб)

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ У НОВАЙ СВЯТЛІЦЫ

Вёска Крывая ў Бельскім павеце мае вялікую пашану ад насельніцтва павета. Ужо амаль 15 год як вядзе актыўную працу прадукцыйная спулдзельня. Яна змеханізавана амаль у 100%, займае значнае месца ў прадукцыі павета. Тут жывуць працавітыя, дружныя людзі. А гэта мы бачым па іх забудаваннях, новых, прыгожых хатах і даведзеных да парадку дарогах. Найбольш грамадскай працы мы бачым, калі глянем на новапабудаваную прыгожую святліцу. Гэты будынак пабудаваны чынам сялян і моладзі з вёскі Крывая. Яны сабралі на пабудову святліцы 30 000 зл. і залажылі фундамент. Таксама часткова дапамаглі і пры далейшай пабудове. Святліца была аддана ў карыстанне ў сувязі са святам 22 ліпеня. Моладзь Крывой даўжэйшы час рыхтавалася да ўрачыстага свята, да адкрыцця святліцы.

І вось 28 ліпеня. Нядзеля. З'язджаецца моладзь навакольных вёсак, гул матораў, які сціхае перад новым будынкам. Збіраюцца ўсе: старэйшыя, моладзь і дзеці.

З прамоваю выступіў прадстаўнік з Бельска. Ён дзякаваў жыхарам і моладзі за працу, жадаў поспехаў у развіцці культуры. Потым адбыўся момант перарэзання істужкі, вітанне павятовых улад рознаколернымі букетамі кветак. Уручэнне ключа сябру С. Пракапюку. Весела настроеныя дзяўчаты, хлопцы і старэйшыя запоўнілі залу.

За заслонаю апошнія хваляванні самадзейнікаў, бязладныя гукі інструментаў, якія настройваюць аркестранты.

І вось урачыста рассоўваецца заслона. Свята песні, музыкі і танцаў, свята крывянскіх талентаў пачалося. На сцэне яркія фарбы касцюмаў самадзейнікаў. І хвалюючы вобраз. Самадзейнікі з Крывой супольна выступалі з сябрамі — самадзейнікамі агульнавядомага гуртка з Пілік. У праграму выступлення ўвайшлі беларускія, польскія і рускія народныя песні і некалькі песень са сваёй роднай вёскі аб спулдзельні прадукцыйнай. Кожны нумар праграмы гледачы віталі бурнымі воплескамі. Найбольш ветліва прынялі жыхары Крывой песні аб іх вёсцы і працы ў спулдзельні. Поспеху выступлення хору садзейнічала добрае афармленне сцэны, дэкарацыя і здольнасць выканаўцаў. Здаецца, што гэты гурток павінен развіваць сваю працу, у ім крыюцца сапраўдныя мастацкія здольнасці.

Таксама і піліцкія артысты спявалі і выконвалі на інструментах памайстэрску. Яны выступалі з большай адвагай. Кожны нумар быў надзвычай уданы. Тут было ў волю жартаў і смеху.

І так, канцэрт набліжаецца к канцу. Першае ўдалае выступленне на новай сцэне закончана.

Пачаліся танцы. Засталося шмат моладзі з навакольных вёсак і ўсе самадзейнікі.

Спулдзельня за свае грошы купіла да новай святліцы тэлевізар. Кожны вечар збіраецца многа гледачоў. Моладзь і старэйшыя жыхары вёскі цікавяцца новымі дасягненнямі, тэхнікай, весткамі са свету і краіны. Найбольш гледачоў прыцягвае фільм у тэлевізары.

**Ул. Весялоўскі**




Дарагое **Сэрцайка!**

Нядаўна я скончыла 22 гады. Дагэтуль ніколі не кахала і таму не выйшла яшчэ замуж. Два месяцы таму я была ў сваёй цёці ў суседняй вёсцы. І там пазнаёмілася з Віцем. Віцю 27 год. Ён прыстойны і вельмі мілы хлапец. Я ў ім закахалася, і ён таксама прызнаўся мне ў каханні. Нядаўна запрапанаваў мне жаніцца. Я адразу згадзілася. Але пры тым ён прызнаўся, што мае няшлюбнага сына, які ўжо мае 5 год. Але з жанчынай гэтай не ажаніўся, гэта была яго жыццёвая памылка. Яна выйшла замуж, а Віця плаціць на дзіця. На вёсцы аб ім апрача гэтага нічога дрэннага не гавораць, а нат' хваляць, што вельмі добры мае характар.

Парай, Сэрцайка, што рабіць. Я кахаю яго і адначасова баюся сораму, што выйшла замуж за хлопца з дзіцём.

**Геня**

з Дуброўскага павета

Дарагая **Геня!**

Не можна лічыць чалавека, які зрабіў жыццёвую памылку, дрэнным. Кожны з нас мае якуюсьці большую памылку ў жыцці. Трэба цаніць яго па далейшых паступках. Калі ён гэта зразумеў і стаў іншым чалавекам, дык напэўна заслугоўвае на пашану. Таксама і з тваім Віцем. Ён адзіны раз зрабіў дрэнны паступак у жыцці. Але ён зразумеў сваю памылку і стаў іншым, сваімі паступкамі заслужыў на пашану аднавяскоўцаў. І таму няма чаго баяцца выходзіць замуж за Віцю. Калі вы сапраўды кахаецеся, дык павінны пажаніцца. А на людзей не трэба звяртаць увагі, будзеш жыць з Віцем, а не з людзьмі.

Жадаю вам усяго добрага

СЭРЦАЙКА

(Працяг са стар. 5)

## ГАЗНІКІ

ранку. Павалаклі Сцёпу зноў у суд. Ды ад таго ж ёсць «адданыя» сябры, якія нат' не пачырванеўшы налгалі, што «ісціны Бог», як бачылі, калі Сцяпан Пракапюк купляў гэту няшчасную скуранку на кірмашы ў Гайнаўцы.

— Высокі Суд! Адкуль жа абвінавачаны мог ведаць, што яна крадзеная! — забляялі сябрукі ў адзін голас.

Мічэйка не меў сведкаў, як Сцяпан краў. І канцы ў воду! У параўнанні з гэтым гісторыя рабунку Надзінай крамы здаецца дзіцячай забаўкай. Там проста спольнік Васілюк не вытрымаў кулакоў Надзінага мужа. Сцяпану не заставалася тады нічога іншага, як таксама паказаць Васілюку кулака з другога боку і той умомант дадумаўся, што лепей узяць віну на сябе, чымсьці ўстаўляць штучныя зубы ў маладыя гады.

Упэўніўшыся астаткова ў сваёй перфекцыі Сцёпа пастанавіў: — Канец Тэслюку!

— Дзе мой брат? — запытаў яго. — Гніе мой брат... Так!?

— Сам ведаеш, — адказаў Тэслюк.

— А ты — ці хочаш жыць?

— Чаму ж не хачу? Хачу.

Сцяпан не спяшаючы хапае за стальвагу з-пад прыдашша і з размахам б'е Тэслюка па плячы, па грудзях, па галаве... Будучы Сцяпанаў прыбраны бацька паў мёртвым.

* ✲ *

Уліся ніколі не падае духам. Нават ані голад, ані холад не страшны ёй. У голадзе пракормяць абы да вясны яе «рыбачкі». У холадзе ратуе хлебная печ — залезе туды задам, толькі галава пры дзверцах храпе.

— Паслухай, рыбачка, Сцяпан піша, што хутка вернецца дамоў. Просіць назбіраць чатырнаццаць тысяч на адваката, — гаворыць Уліся направа і налева. — Прадам каня, прадам карову...

Улісіны словы маланкаю нясуцца ад хаты да хаты.

— Вернецца Сцяпан — будзе мсціць: біць, паліць, рэзаць. Яму ўжо адно...

Нястрымны страх скоўвае аколіцу, замыкае сведкам рот. Ці толькі цяпер? Сляпая вера ў падкупнасць, знаёмствы з аднаго боку, і людская несалідарнасць на хуліганскія выбрыкі з другога боку — вось прычыны нараджэння Курашаўскай эпапеі пра Газнікоў.

Хтосьці справядліва сказаў, што чалавек бандытам не родзіцца.

**КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ**

# КІНО

**ПРАГРАМА на 26.VIII — 2.IX.1963 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Manekin Pis" (holenderski), 27-29. VIII. „Opowieść o prawdziwym człowieku" (radziecki), 30. VIII—1. IX.

**Кляшчэлі**
„Księga dżungli" (angielski), 27—29. VIII. „Wielka, większa i największa" (polski), 30. VIII—1. IX.

**Навасады**
„Ogniomistrz Kaleń" (polski), 31. VIII.—1. IX.

**Нараў**
„Czas rozłąki" (radz.), 28. VIII.—1. IX.

**Нараўка**
„Spóźnieni przechodnie" (pol.), 28. VIII.—1.IX.

**Чаромуха**
„Skradziono bombę" (rumuński), 27.—29. VIII. „Zdarzyło się to w Rzymie" (włoski), 30. VIII—1. IX.

**Чыжы**
„SOS na Pacyfiku" (angielski), 28. VIII.—1. IX.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Бонькі**
„Majowe gwiazdy" (czeski), 28. VIII—1. IX.

**Бранск**
„Sztubak" (czeski), 27—29. VIII. „Europolis" (czeski), 30. VIII.—1. IX.

**Гродзіск**
„Pan i Astrolog" (czeski), 31. VIII.—1. IX.

**Орля**
„Bariera ognia" (radziecki), 28. VIII.—1. IX.

**Рэйск**
„Ten, który wrócił" (radziecki), 28. VIII.—1. IX.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Zamek z bajki" (NRD), 27—29. VIII. „Niewidomy muzyk" (radz.), 30. VIII.—1. IX.

**Міхалова**
„Gdzie rzeki błyszczą w słońcu" (czeski), 27—29. VIII. „Dwie sroki za ogon" (radz.), 30. VIII.—1. IX.

**Супрасль**
„Trzynastego nocą" (bułg.), 27—29. VIII. „Przepustka na bal" (radz.), 30. VIII.—1. IX.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Koncert gwiazd" (radziecki), 27—29. VIII. „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 30. VIII.—1. IX.

**Мілейчыцы**
„Wesołe historie" (radziecki), 27—29. VIII. „Sami na oceanie" (radz.), 30. VIII.—1. IX

**Нурэц**
„Teresa Reguin" (francuski), 27—29. VIII. „Zmartwychwstanie" I s. (radz.), 30. VIII.—1. IX.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Syn skazańca" (angielski), 27—29. VIII. „Jutro przestaniesz umierać" (radz.), 30. VIII.—1. IX.

**Сухаволя**
„Skradziono bombę" (rum.), 27—29. VIII. „Czerwone berety" (polski), 30. VIII.—1. IX.

**Шудзялава**
„Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 28. VIII.—1. IX.

**Янаў**
„Orkiestra wojskowa" (węg.), 27.—29. VIII. „Zmartwychwstanie" II s. (radz.), 30. VIII.—1. IX.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Dom na rozstajach" (radz.), 31. VIII.—1. IX.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 48.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.76 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5458 BHk A3




КУР'ЁЗЫ

## Рэкорд сядзення

Студэнт Іэльскага універсітэта Джэмс Рабінсан устанавіў новы сусветны рэкорд няспыннага сядзення ў крэсле. 50 гадзін ён нерухома прасядзеў у крэсле, устаноўленым у тэлестудыі. Увесь час ён знаходзіўся пад наглядам журы. Яго рэкорд значна перавышае папярэдні, які складаў усяго 30 гадзін. Пераможца быў так нервова і фізічна знясілены, што заявіў карэспандэнтам: «Больш я ніколі не буду ўдзельнічаць у падобных спаборніцтвах».

**«Ліберасьён».**

## Дагары нагамі

У адной з залаў мастацкага музея, адбылася спрэчка паміж мастакамі. Усё пачалося з новай карціны. Адны гаварылі, што мастак намаляваў мартэнаўскі цэх, другія — усход сонца, трэція сцвярджалі, што гэта ні што іншае, як палёт чмяля.

Невядома да чаго б дайшла спрэчка, каб не з'явіўся аўтар і не абвясціў, што карціна памылкова была павешана дагары нагамі.

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

**Ад пустога кашалька робіцца цяжка кішэнь.**

✲

**Кожная дзяўчына выходзіць замуж за добрага. Адкуль бяруцца дрэнныя мужы?**

✲

**У вёсцы на кібернетыцы знаецца кожны пляткар.**

✲

**У гандляра кожны тыдзень кароўка целіцца.**

✲

**Выглянцаваў боты, але забыўся ногі памыць.**

### ВОСЬ ЧАГО НЕ ХАПАЕ

«Загад аб маім звальненні лічу несапраўдным, бо сярод дзесяці вымоў, якія я атрымаў у апошні час, няма ніводнай вымовы з апошнім папярэджаннем».

(З пісьма ў суд).

### КАХАННЕ

— Кахаеш мяне?

— Моцна.

— А памёр бы з-за мяне?

— О не. Маё каханне несмяротнае.

### ПРАВЕРКА

Шэф наведвае захварэўшага падначаленага.

— Прызнацца, — гаворыць ён, — я падазраваў вас у сімуляцыі, аднак з праўдзівым задавальненнем сведчу, што вы сапраўды цяжка хворы.

### ДРАМА

У адным тэатры прадстаўленне сучаснай драмы цягнулася тры гадзіны. Ігралі да апошняга гледача.

### НА АЎТАКУРСАХ

Курсантка ў час вучэбнай язды гаворыць інструктару.

— Люстэрка ў аўтамашыне дрэнна пастаўлена, нічога не відаць, апроч аўтамабіляў едучых ззаду.



**— Чаму так часта прыходзіш да маёй сястры? Ці ты не маеш сясцёр?**

# ЕДЗЕМ У БЕЛЬСК

Спачатку пасажыры адпрасуюцца перад касай, потым з білетамі бягуць па лабірынту вакзальных праходаў на чацвёрты перон. Улазяць у вагон, узыхаючы аблегчана, быццам адбылі палавіну дарогі да Бельска.

З рухам поезда ўзрастае непакой едучых.

Чытачы ўжо ведаюць, што грамадзяне ў вагонах едуць у Бельск, але самыя пасажыры гэтага не ведаюць. Селі ў вагоны з надпісам «Беласток — Люблін» і куды заедуць, пакуль невядома. Спытаць няма каго, а поезд тым часам рухаецца. Скрыпіць, енчыць, ляскоча стары вагон. Здаецца, што за мінуту рассыплецца, і пасажырам давядзецца па гаечках збіраць гэты тарантас.

Перад станцыяй поезд тармазіць, нештаданосіцца з-пад вагонаў. Усім стаецца ясна — да станцыі даедзе палавіна вагона, але верхняя ці ніжняя — невядома.

Нарэшце поезд спыняецца. Станцыя Лявіцкія. Тут поезд стаіць доўга. Некаторыя людзі гавораць:

— Машыніст пабег у Беласток, забыў узяць пуцёўку.

Іншыя грамадзяне не згаджаюцца:

— Семафор не адкрываецца, дзяжурны па станцыі згубіў ключ ад семафора.

Яшчэ іншыя даказваюць, што ў машыніста закіпела вада, калі далей ехаць, могуць пасажыры ашпарыцца варам.

У самы разгар спрэчкі ўязджае сустрэчны поезд. З'яўляюцца перад вагонамі кандуктары, паднімаюць рукі, крычаць не сваім голасам. Ад гэтага шуму поезд пачынае рухацца ў напрамку Зімнохаў. Едучыя здзіўляюцца: маса невядомых вагонных частак высыпалася на рэйкі, а поезд паўзе далей.

Нехта сцвярджае:

— Будзем ехаць пакуль колы круцяцца.

Нечакана з'яўляецца кандуктар, патрабуе білеты.

— Грамадзянін кандуктар, ці ёсць насілкі ў поездзе? — пытае нехта.

— Гэта не санітарны поезд, насілкі ёсць на станцыі, — адказвае той.

— Што за агіднасць! — абураецца пасажыр. — У выпадку катастрофы, пакуль даставіце насілкі, я дух выпушчу.

— Чыгунка не адказвае за тых, хто паспешыць выпусціць дух, — тлумачыць кандуктар. — Паводле інструкцыі, пацярпеўшыя абавязаны чакаць дапамогі.

— Скандальная агіднасць! — не здаецца пасажыр. — Інструкцыя ёсць, а вады ў прыбіральні няма.

— Даедзем да Любліна, будзе і вада, — супакойвае кандуктар і ідзе далей лавіць зайцаў.

Перад Бельскам поезд напружвае сілы і падкачвае да станцыі як міжнародны экспрэс. Стары нумар. Так вазілі нас калісьці рамізнікі. Усю дарогу конь трусіў, а перад домам скакаў галопам. Рамізнік нацягваў лейцы, выгінаючы назад тулава: «Вось, маўляў, як возім, калі ласка, на чаёк».

У Бельску вылазім з вагона і думаем: «Ці даедзе гэта старызна да Любліна?»

*Дзядзька Лявон*

НІЛ ГІЛЕВІЧ

## Замова ад прыпісак і самахвальства

Жыла-была жаба,
Хвалілася жабе,
Што ў яе лугі ўсе — заліўныя,
Што ў яе ўсе рэкі — малочныя,
Што ў яе ўсе травы — мядовыя,
Што ўсе ураджаі — стопудовыя.
Узляцела жаба
Высока-высока,
Звалілася жаба
Ажно з-пад аблокаў,
Жвякнулася жаба
На дробныя часткі,
На макавы зерні,
На грэцкія крупы,
Бо была ў жабы
Адна гнілая купіна.
Вось і ўсё!

## ТРУБА БЕЗ ДЗІРКІ

Прафесар у часе экзаменаў западозрыў, што студэнт не падрыхтаваўся да экзамена па тэхналогіі металаў. Аднак баяўся памыліцца і сказаў:

— Паставіў бы вам «двойку», але яшчэ адно пытанне: з чаго ў вашых умовах можна зрабіць долата?

— Вазьму кавалак трубы і зраблю, — адказаў студэнт.

— Як жа вы з трубы зробіце, калі сярэдзіна ў яе пустая? — здзівіўся прафесар.

— Я вазьму трубу без дзіркі.





**Мо' каб так носа не задзірала...**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Кіры Мінюк** з Петухоўкі, Бельскага павета, змяшчаем савецкую песню

## Грустные ивы...

Грустные ивы склонились к пруду,
Месяц плывет над водой.
Там у границы стоял на посту
Ночью боец молодой.
В темную ночь он не спал, не дремал,
Землю родную стерег, —
В чаще лесной он шаги услыхал
И с автоматом залег.

Черные тени в тумане росли,
Туча на небе темна...
Первый снаряд разорвался вдали,
Так начиналась война.
Трудно держаться бойцу одному,
Трудно атаку отбить.
Вот и пришлось на рассвете ему
Голову честно сложить.

Грустные ивы стоят у пруда,
Месяц глядит с вышины...
Сонному берегу шепчет вода
Имя героя страны.
Вместе с победой спокойные дни
В эти вернулись края,
Ночью на тихой заставе огни
Вновь зажигают друзья.

## Памагло

Да зубнога лекара, трасучыся са страху, уваходзіць пацыент.

— Давядзецца вырваць зуб, — гаворыць лекар пасля агляду.

Хворы пачынае трасціся мацней.

Лекар налівае яму кілішак гарэлкі.

— Ну, выпіце для храбрасці!

Пацыент выпівае, але не перастае трасіся. Лекар налівае яму яшчэ кілішак, потым трэці, чацвёрты. Прыкмеціўшы, што хворага больш не трасе, лекар пытае:

— Ну як? Набраліся вы храбрасці?

— О-го! — адказвае пацыент. — Хай цяпер хто адважыцца кранунь мой зуб!..



